# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 2 (567) ГОД XII 8 СТУДЗЕНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


У НУМАРЫ



## З жыцця БГКТ

**КАНФЕРЭНЦЫІ**

18. XII.1966 года ў Беластоку адбылася канферэнцыя Міхалоўскага аддзела БГКТ. Удзел у канферэнцыі прыняло звыш 30 асоб. Ад імя праўлення аддзела даклад прачытаў кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ М. Лобач. У дакладзе гаварылася аб працы аддзела, а таксама звярталася вялікую ўвагу на грамадскую працу членаў і яе новыя формы, якіх мэтай павінна быць захаванне духоўнай, матэрыяльнай і культурнай спадчыны беларусаў.

У дыскусіі звярталася ўвагу на цяжкасці ў працы з моладдзю ў тых мясцовасцях, дзе няма святліц, і на шэраг іншых праблем арганізацыйнага характару.

Удзельнікі былі расчараваны адсутнасцю на канферэнцыі запрошаных прадстаўнікоў КП ПАРП, аддзела ўнутраных спраў, аддзела культуры Прэзідыум ПРН, ЗМВ і іншых устаноў. (л)

* ✲ *

19.XII.1966 года ў зале кіно «Аўрора» адбылася канферэнцыя Варшаўскага аддзела БГКТ. На канферэнцыю прыбылі сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк, кіраўнік культурна-асветнага аддзела М. Лобач, рэдактар польскага радыё і тэлебачання Т. Саланевіч і прадстаўнікі ўлад Дзельніцовай рады нарадовай Варшава — Сьрудмесце. З інфармацыйным дакладам аб працы аддзела за мінулы год выступіў кіраўнік аддзела і сакратар праўлення аддзела ў Варшаве Віктар Швед, які таксама прадставіў у дакладзе планы працы аддзела на будучы год.

Зараз аддзел налічвае 215 членаў БГКТ. Такога ліку дагэтуль яшчэ не было. Трэба таксама адзначыць, што члены БГКТ з Варшаўскага аддзела часта выбываюць на Беласточчыну і з'яўляюцца актывістамі БГКТ. Варшаўскі аддзел прадаў 140 альманахаў «Белавежа», 80 календароў на 66 год, навуковага зборніка 80 і іншых выдавецтваў каля 120 экземпляраў. Аддзел праводзіць сустрэчы з навуковымі супрацоўнікамі АН БССР як, напрыклад, з прафесарам др. Сядовым, кандыдатам геалагічных навук В. Лукашовым і іншымі, якія прабывалі ў Польшчы. Апрача гэтага аддзел арганізаваў даклады з беларускай праблематыкай і аўтарскія сустрэчы з варшаўскімі членамі аб'яднання «Белавежа», акадэміі з нагоды гадавін і дзяржаўных свят. Усе гэтыя мерапрыемствы карысталіся вялікай папулярнасцю членаў БГКТ і сімпатыкаў. Вялікую ўвагу аддзел прысвячае працы з дзяцьмі. Апрача традыцыйнай ёлкі праведзены быў конкурс на дзіцячыя малюнкі (з лепшых прац сарганізавана выстаўку ў аддзеле) і дзіцячыя вечары, на якіх дзеці гуляюць, выступаюць з беларускімі вершамі і песнямі. У клубе БГКТ члены і сімпатыкі могуць пачытаць беларускія і польскія часопісы.

**(Працяг на стар. 5)**




## Сустрэчы з землякамі



**Галіна Сланіцкая ў ролі каралевы Елізаветы з оперы Вердзі «Дон-Карлас».**
**Фота Э. Гартвіг.**

# Галіна Сланіцкая

Памалу гаснуць агні крыштальных кандэлябраў, ціхне гоман пасторнай залы Вялікага тэатра ў Варшаве. На сцэне найбольш слаўныя ў Польшчы майстры опернага мастацтва: Гіольскі, Ладыш, Папроцкі, Войтан... А сярод іх — **Яна**, наша зямлячка, **Галіна СЛАНІЦКАЯ.**

Цяпер іграе толькі галоўныя жаночыя ролі.

Дабілася ў оперным мастацтве ўсяго таго, чаго дабіцца можна ў нашай краіне.

— Калі ласка, раскажыце нам пра сябе, пра гэтую дарогу, якая завяла Вас на ўзвышша славы і прызнання, — прашу спявачку.

**— Бацька мой працаваў у гайнаўскім тартаку, мама — у нейкай канторы. Бацька ў 1940 годзе трагічна загінуў. Асталося нас трое: мама, я і брат. Вучылася спярша ў Гайнаўцы ў беларускай школе. Працавалі там школьныя тэатральныя гурткі, дзейнічаў вучнёўскі хор. Разам з сяброўкамі ставілі інсцэніроўкі розных казак і скетчаў.**

Цяжка было адной маме гадаваць двое дзяцей. Хацела яна каб Галіна хутчэй закончыла нейкую практычную школу і, здабыўшы прафесію, пачала працаваць. Такім чынам трапіла яна ў Беласток, у будаўляны ліцэй.

**— Будаўнік — гэта мая першая прафесія. Планавала паступіць на архітэктурны факультэт Варшаўскага палітэхнічнага інстытута, — успамінае Галіна Сланіцкая. — Але прыхільнасць да спеву перамагла. Спяваць я заўсёды любіла. Хор беластоцкай «будаўлянкі» вёў прафесар Саберайскі. Ён раіў мне ўсур'ёз заняцца вывучэннем музыкі. Тады хтосьці наладзіў ваяводскі конкурс для спевакоў-аматараў. Я заваявала першае месца. Магчыма таму зацікавіўся мною, здаецца, таварыш Сітэк з аддзела прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП. Я атрымала стыпендыю і месца ў інтэрнаце, паехала ў Варшаву вывучаць музыку. Было гэта ў 1951 годзе. Прынялі мяне ў сярэднюю музычную школу. Памятаю сваю першую лекцыю. Прафесар выклікае мяне да дошкі і просіць напісаць: «Гаму ў танацы Ц-дур», а я пытаю: «Што напісаць?» І стаю, вочы вытрашчыўшы. Аднаклас-**

**(Працяг на стар. 3)**

# Каляіны вясковага будаўніцтва

Скажу рэч дзіўную. Паслухайце: Беласточчына мае найлепшыя ўмовы найноўшага будаўніцтва! Ёсць вялікія крэдыты ў банках, склады заваленыя цэментам, усюды ўдосталь дахоўкі і этэрніту, штокрок маем пагоркі, поўныя добрага пяску ды жвіру. Здавалася б, чаго больш трэба?

Трэба цэглы!

Пустакі навучыліся рабіць самі. Няма цэглы, замала цэглы. Бо, найноўшае будаўніцтва — гэта, перад усім, цэгла. Наша зямля багатая пакладамі першакласнай гліны, але цагельняў надта мала на гэтых пакладах або і зусім няма іх. Цагельняў да таго мала маем, што даводзіцца давозіць цэглу з іншых ваяводстваў па **сто сорак мільёнаў штук!** Ды ледзь можам пакрыць **палову** патрэб вясковага будаўніцтва.

Варшава дае грошы на збудаванне двух вялізных цагельняў, але ўперлася яна прытым, што гэтыя цагельні павінны быць збудаваны ў вялікіх гарадах, як Беласток і Ломжа, дзе і без цагельняў ёсць ужо даволі развітая прамысловасць і запэўнена праца патрабуючым заробку. Праектаваная ломжынская цагельня выраблябы б 77 мільёнаў штук цэглы ў год; праектаваная беластоцкая цагельня выраблябы б 90 мільёнаў штук цэглы ў год. Вялікія былі б гэта фабрыкі. Дык чаму ж не збудаваць іх у тых паветах, дзе: па-першае, няма ўвогуле ніякай прамысловасці, а па-другое, існуе там шалёны попыт на цэглу. З агульнага ліку васемнаццаці з палову тысяч новых будынкаў у Беластоцкім ваяводстве, будова якіх запланавана або ўжо пачата, амаль в о с е м тысяч будзе збудаваных у нашых паветах, у нашых вёсках. Асабліва, у Сакольскім і Дуброўскім паветах. Патрэбная там, у першую чаргу вялікая цагельня, якая дала б прытым пачаткі першай прамысловасці, бо там, апрача малачарняў, нічога няма, калі не лічыць невялікай гарбарні ў Крынках. Новапабудаваная чыгунка з Саколкі цераз Дуброву да Аўгустова стварае добрыя магчымасці для прамысловага будаўніцтва, індустрыялізацыі. Натуральныя багацці Сакольскай зямлі даюць пэўную падставу для развіцця, менавіта, прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. Для прыкладу скажам, што ў ваколіцы засакольскай вёскі Рацава існуюць проста фантастычныя паклады дасканалага жвіру, найбольшыя паклады на тэрыторыі нашага ваяводства. Як падлічылі спецыялісты, можна было б здабываць там каля дзвесце пяцідзесяці тысяч тон жвіру штогод для патрэб будаўніцтва. Апрача таго, магчымым было б закласці там гіганцкую прадукцыю сілікатавых і газабетонавых вырабаў найвышэйшай якасці ў еўрапейскіх стандартах!

Тым часам маем дачыненне з такімі глупствамі, што жвір на будовы Беластока давозім часамі з іншых ваяводстваў, не гаворачы ўжо пра сілікаты ці газабетон. Чаму так робіцца, вінаватых не знойдзеш. Беласток вінаваціць Варшаву, варшаўскае блізарукае начальніцтва, і наадварот.

Гэтыя прыклады палітыкі ў размяшчэнні і будове прамысловасці звязанай з патрэбамі вясковага будаўніцтва, не прарочаць нам лёгкай будучыні. (Падобных прыкладаў маю больш). У вы-

**(Працяг на стар. 4)**




**АЛЕСЬ БАРСКІ**

* ✲ *

**Мы ходзім на граніцы сну і явы**
**і глядзімо з краіны цемры**
**у каляровы свет жаданняў**
**у свет канання паўставання**
**або ў агонь або ў попел**
**мы ўсе малыя чалавечкі**
**прахожыя ў часе госці**
**з сэрцам малым**
**з вялікай злосцю**

## СВЕТ

### ПАЛІТЫКА Ў СТАРЫМ І НОВЫМ ГОДЗЕ

■ Міністр **А. Рапацкі: «Пакуль што ў Еўропе ёсць часовае памяркоўнае зацішша.** Калі б на свеце запанаваў мір, дык гэтае **зацішша расшырылася б.** Але **калі в'етнамская вайна будзе расшырацца, дык гэта прынясе і Еўропе кепскія вынікі».**

Нягледзячы на напружаную сітуацыю, выкліканую агрэсіяй у В'етнаме, мінулы год адзначыўся многімі кантактамі кіраўнікоў пасобных дзяржаў ці міністраў замежных спраў.

**1967 год,** на думку міністра А. Рапацкага, таксама прынясе многія палітычныя сустрэчы. **На пачатку студзеня** ў Польшчу прыязджае прэм'ер Даніі **О. Краг.** А **ў канцы** гэтага ж месяца міністр **Адам Рапацкі** наведае **Францыю,** наносячы афіцыяльны візіт. **У лютым** кіраўнік замежных спраў Польшчы наведае **Вялікабрытанію.**

«З гэтых кантактаў, — сказаў А. Рапацкі, — павінен высоўвацца прагрэс у двухбаковых і агульнапалітычных суадносінах.

■ У Тан зноў звярнуўся з заклікам да ўрада ЗША, каб той безагаворачна ўстрымаў бамбардзіроўкі В'етнама і распачаў мірныя перагаворы, прызнаючы як роўны бок Фронт нацыянальнага вызвалення. Прэзідэнт Джонсан адкінуў гэты заклік.

■ Тайная радыёстанцыя паўднёва-в'етнамскіх патрыётаў перадала, што пачынаючы ад 8 лютага г.г. абвяшчае тыднёвае перамір'е на тое, каб салдаты маглі вярнуцца да сваіх сем'яў, адсвяткаваць в'етнамскі Новы год.

### А. КАСЫГІН У ТУРЦЫІ

З 20 па 27 снежня 1966 года па запрашэнні ўрада Турэцкай Рэспублікі з афіцыяльным візітам у **Турцыі** знаходзіўся Старшыня Савета Міністраў СССР **А. М. Касыгін.** У час перагавораў адбыўся шырокі абмен думкамі па пытаннях развіцця савецка-турэцкіх адносін і па актуальных міжнародных праблемах.

Абодва бакі выказалі сваю **глыбокую трывогу ў сувязі з небяспечным становішчам, якое існуе ў паўднёва-ўсходняй Азіі.** Яны разглядаюць жэнеўскія пагадненні з 1954 года, як **аснову ўрэгулявання в'етнамскай праблемы і лічаць, што в'етнамскаму народу павінна быць дадзена права самому свабодна вызначаць свой лёс.**

Бакі абмяняліся думкамі па кіпрскаму пытанню.

### КРЫВАВЫ ТЭРОР

Ратуючыся ад крывавага тэрору партугальскіх каланізатараў, толькі на тэрыторыі **Конга (Кіншаса) знайшло прытулак больш чым 250 тысяч афрыканцаў з Анголы.** Некалькі тысяч анголцаў укрылася ў заходніх раёнах другой, суседняй з Анголай, афрыканскай краіны — **Замбіі.**

### УЦЁКІ ВЯЗНЯЎ

Нецікава закончыўся мінулы год у англійскіх турмах. У снежні 1966 года ўцяклі там 21 вязень. А ад пачатку таго ж года лік уцекачоў складае больш чым 500.

А. К.

## БССР

### ЗАКОН

Газеты апублікавалі Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР на 1967 год, а таксама Закон аб бюджэце.

У артыкуле 3-ім Закона аб Дзяржаўным плане гаворыцца, што ў 1967 годзе павялічацца ў параўнанні да 1966 года рэальныя даходы на душу насельніцтва на 6,3 працэнта, увод у эксплуатацыю агульнай плошчы жылых дамоў за кошт дзяржаўных капітальных укладанняў на 24,9 працэнта. У Законе аб бюджэце ўстаноўлена, м. ін. бюджэт для Гродзенскай вобласці ў суме 101.590 тысяч рублёў — па даходах і расходах.

### ГОСЦІ

Па запрашэнню Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і аддзялення таварыства «СССР—Францыя» ў Мінску, на працягу тыдня знаходзілася дэлегацыя таварыства «Францыя — СССР» на чале з Фернанам Ібаньесам. Абмяркоўваліся магчымасці далейшага развіцця сувязей паміж Мінскам і Ліонам. У Францыі маюць адбыцца дні Савецкай Беларусі, а ў Беларусі — дні французскай навукі і культуры.

### СЕМІНАР

У Мінску адбыўся семінар рэдактараў новых газет, якія арганізаваны ў наваўтвораных раёнах рэспублікі. У нарадзе прыняў удзел, м. ін. старшыня Камітэта па друку пры Савеце Міністраў БССР **Р. Канавалаў.** Рэдактары газет былі прыняты сакратаром ЦК КП Беларусі С. Пілатовічам.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Гомелі адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя работнікаў абласных, гарадскіх, раённых, сельскіх, тэхнічных і ведамасных бібліятэк Беларусі. Удзельнікі канферэнцыі дзяліліся вопытам сваёй працы, знаёміліся з работаю перадавых бібліятэк Гомельшчыны.

### ПЯЦІДЗЕСЯЦІТЫСЯЧНЫ

Пяцідзесяцітысячны трактарны прычэп сышоў з галоўнага канвеера завода «Гомсельмаш». Выпуск прычэпаў прадпрыемства пачало ў мінулым годзе, а цяпер яны ўжо імчаць па дарогах Беларусі і Украіны, Урала і Казахстана, Сібіры і Далёкага Усходу. Нядаўна завод атрымаў заказ на выраб трохсот прычэпаў для далёкай Манголіі.

### ПАМЯЦІ

У віцебскай 43-й школе, якая носіць імя легендарнага партызанскага правадыра Міная Шмырава, адбылася ўрачыстасць. Прыйшлі сюды баявыя сябры бацькі Міная — былы камісар Першай беларускай партызанскай брыгады Р. Шкрэдз, камандзір партызанскай брыгады імя Ленінскага Камсамола Д. Райцаў, удава Міная Шмырава — Ірына Шмырава і іншыя. У гэтай школе адкрыты мемарыяльны музей бацькі Міная. Тут экспануюцца асабістыя рэчы Шмырава, літаратура аб ім. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### 25-ГОДДЗЕ ППР

5 студзеня мінула 25 гадоў з дня заснавання Польскай рабочай партыі — партыі, якая павяла працоўных Польшчы да барацьбы з гітлераўскім акупантам, а наступна — да барацьбы за народную ўладу ў Польшчы.

Польская рабочая партыя заснавалася ў студзені 1942 года. Да таго часу існавала на тэрыторыі Польшчы мноства розных груп і арганізацый, якімі кіравалі камуністы і якія мэтай сваёй лічылі барацьбу з немецкім фашызмам, а наступна барацьбу за станаўленне ў Польшчы сацыялістычнага ладу, не маглі яны аднак раней стварыць адзінай марксісцкай партыі.

Як вядома, Камуністычная партыя Польшчы была развязана ў 1938 годзе пад няслушным закідам апанавання яе правакатарамі. Згодна з рашэннямі Выканаўчага камітэта Інтэрнацыянала партыя польскіх камуністаў магла быць адбудавана толькі з ініцыятывы Інтэрнацыянала. Усякія самастойныя спробы адбудовы камуністычнай партыі ў Польшчы лічыліся правакацыяй. Таму менавіта ў той час польскія камуністы не тварылі арганізацыйна сфармаваных партый выразна камуністычнага характару. Асноўнай формай іх канспірацыйнай дзейнасці была кіруючая роля ў антыфашысцкіх падпольных арганізацыях. Арганізацыі гэтыя налічвалі ў сваіх радах у 1941 годзе каля 5—6 тысяч членаў. Была гэта сур'ёзная палітычная сіла, на якой аперлася потым Польская рабочая партыя.

Ядром ППР сталіся камуністы, якія нашліся ў час вайны на тэрыторыі Савецкага Саюза. Выканаўчы камітэт Інтэрнацыянала скіраваў іх на сваю школу ў Пушкіна ля Масквы, дзе была створана сярод іх гэтак званая Ініцыятыўная група. Гэтая група праз доўгі час перадыскутоўвала ў сваім асяроддзі праграму будучай партыі польскіх камуністаў. 27 снежня 1941 года адляцела з Савецкага Саюза да акупаванай гітлераўцамі краіны першая частка Ініцыятыўнай групы. Былі гэта камуністы: Марцэлі Навотка, Павел Фіндэр, Пінкус Карцін і іншыя. 28 снежня 1941 года каля першай гадзіны варшаўскага часу мелі яны пасадку на парашутах у аколіцах Варшавы. У тыдзень потым вылецела з Масквы другая частка Ініцыятыўнай групы. Неўзабаве пасля прылёту Ініцыятыўнай групы 5 студзеня, 1942 года ў памяшканні Юліюша Рыдгера на Жалібожы ў Варшаве адбыўся арганізацыйны сход ППР. Прынялі ў ім удзел члены Ініцыятыўнай групы, і прадстаўнікі існуючых у краіне антыфашысцкіх арганізацый. Пасля сходу кіраўніцтва паасобных існуючых у краіне камуністычных арганізацый прынялі пастановы аб развязанні гэтых арганізацый і

(Працяг на стар. 4)

## ВАЯВОДСТВА

Якая будзе Беласточчына 1970 года? **«Ёсць прычыны для аптымізму»,** — сцвердзіў інж. Ежы Зентара — намеснік старшыні Прэз. ВРН у Беластоку ў навагоднім інтэрв'ю для «Газеты Беластоцкай».

✲

Некалькі дзесяткаў навагодніх баляў адбылося ў самым горадзе Беластоку. Гуляла і ўсё ваяводства. Пажаданнямі ўсяго найлепшага ў новым годзе сустракаюцца людзі ў першыя дні студзеня. Новы год, новыя надзеі.

✲

Урачыстасці юбілейнай, 25-ай гадавіны ППР на Беласточчыне распачаліся. Прадстаўляюцца яны вельмі багата: лекцыі, спатканні з дзеячамі, вечарыны, выстаўкі і г.д.

✲

Аб сваёй ролі на вёсцы, аб лепшым і чысцейшым яе заўтра, раіліся дзеячы на ваяводскай нарадзе дзяўчат ЗМВ у Беластоку.

✲

Найбольшы ў ваяводстве і адзін з найбольш сучасных у краіне ПОМ у Моньках распачаў працу. Пры ім ёсць інтэрнат для моладзі, якая тут будзе вучыцца прафесіі.

✲

У тых жа Моньках быў адкрыты Дом афіцэра рэзервы, у якім змяшчаюцца розныя практычныя клубы.

✲

Фабрыкі Беластока выканалі датэрмінова свае гадавыя планы.

✲

Беластоцкія студэнты з Медыцынскай акадэміі, Вышэйшай Інжынерскай школы і двух настаўніцкіх студый правялі зімнія канікулы на зімоўцы ў Белавежскай пушчы.

✲

За Саколкай супольная магіла. У ёй ляжыць і малады Пётр Філін, савецкі салдат, які загінуў вызваляючы гэтыя землі. Пасля 21 года ад таго часу прыехала ў Саколку старая маці Пятра — Таццяна Філіна. Яна адведала магілу і была сярод людзей, якія памятаюць і апякуюцца супольнай магілай савецкіх байцоў. Добра занепакаваліся госцем прадстаўнікі ўлад Сакольшчыны.

✲

У Лізе абароны краю праходзіць справаздачна-выбарная кампанія.

✲

«Тры белыя стрэлы» — пад такім загалоўкам казку для дзяцей падрыхтаваў Беластоцкі тэатр.




NIEDZIELA 8. I.

8.30 Politechnika TV; 10.10 Kino Przygoda: „Piotruś — partyzant" — film fab. jug.; 11.40 PKF; 11.50 Wiadomości dz.; 12.00 „Bawcie się z nami"; 12.45 „Jedziemy na łów"; 13.00 „Ludzie i zdarzenia"; 13.15 „Czarownice" — film; 13.45 „Przemiany"; 14.15 Teatrzyk dla Przedszkolaków: „List do mamy"; 15.00 Teatr Młodego Widza: „Banda Rudego" odc. II pt. „Gdzie jest sztandar"; 15.40 „Politechnika — Uniwersytet" — teleturniej; 16.40 Teatr Niedzielny: „Syrena" i „W sądzie" A. Czechowa; 17.40 „Spotkanie z pisarzem" — Zenon Kosidowski; 18.05 „Siła wyobraźni" — film tv pol. („Wojna domowa"); 18.45 „Słownik wyrazów obcych" 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Wycieczka w Malowane" — program rozrywkowy; 20.50 „Byłem Montgomerym" — film fab. ang.; 22.20 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 9. I.

16.45 Wiadomości dz.; 16.50 Dla dzieci: „Magiczna pałeczka"; 17.20 Program publ.; 17.35 „Giełda reporterów"; 18.00 Kino Krótkich Filmów; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Film; 20.15 Teatr TV; 21.45 „Na półkach księgarskich"; 21.55 „Rozmowy o współczesności"; 22.10 Dziennik TV;

WTOREK 10. I.

10.55 Dla szkół: (kl. VII i XI) Język polski —Juliusz Słowacki „Balladyna" („Dzieje dramatu"); 11.30 „Testament uczonego" — film fab. radz.; 15.25 „Przysposobienie rolnicze"; 16.00 Politechnika TV; 17.00 Wiadomości dz.; 17.05 Dla dzieci: „Zrób to sam"; 17.20 Dla dzieci: „Klub Pięciu Szklanek"; 17.50 Informator handlowy; 18.00 „Giełda piosenki"; 18.30 film; 18.50 Program dokumentalny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Testament uczonego" — film fab. radz.; 21.55 „Panorama Literacka"; 22.35 Dziennik TV; 22.55 Politechnika TV.

ŚRODA 11. I.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Jak wykorzystać wolny czas"; 10.25 „Baron" — film; 16.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.25 PKF; 16.45 „Helsinki zimą" — film; 16.55 Wiadomości dz.; 17.00 Dla dzieci: „Zwyczajne sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Magazyn Medyczny; 18.20 „Encyklopedia baletu"; 18.50 „Eksportowa oferta"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Mężczyzna czy kobieta"; — film; 20.15 „Baron" — film; 21.05 „Światowid"; 21.35 Filmowy program rozrywkowy; 22.05 Kronika Kulturalna; 22.25 Dziennik TV;

CZWARTEK 12. I.

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Na dworze króla Zygmunta"; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Adam Mickiewicz" („Spotkania"); 16.15 Kurs Rolniczy; 16.45 Film; 16.55 Wiadomości dz.; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.15 Dla dzieci: „Fizyka na piątkę"; 17.45 „Tramp"; 18.10 „Kwadrans zagadek"; 18.25 „Śpiewnik domowy" — program muzyczny; 18.55 „Między polem a jadalnią"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Rep. film.; 20.15 Teatr KOBRA: John Dickson Carr — „Tabakiera cesarza"; 21.15 Trybuna Telewizyjna; 22.10 „Nauka XX wieku" (Praha); 22.40 Dziennik TV.

PIĄTEK 13. I.

10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i świecie; 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Ja i mój dom"; 16.55 Wiadomości dz.; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: reportaż; 17.35 „Robinson Cruzoe" — film; 18.00 Wszechnica TV; 13.30 „Welokropek"; 18.45 „Poligon"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Gianni Schiechi" — opera G. Pucciniego; 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 Dziennik TV; 22.10 Wszechnica TV: „Perspektywy".

SOBOTA 14. I.

10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Przez Azję wzdłuż południka"; 11.25 Film fab.; 14.50 „Kosmiczny chłód na ziemi" — rep. z Instytutu Fizyki Akademii Nauk ZSRR (Moskwa); 16.20 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli; 16.55 Wiadomości dz.; 17.00 Dla dzieci: „Gwiazdeczka — zaspaneczka" — widowisko; 18.15 „Po szóstej"; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Belphegor czyli upiór Luwru" — film; 20.35 „Przy sobocie po robocie" — program rozrywkowy; 21.35 Dziennik TV; 21.50 Wiadomości sportowe; 22.00 „Kochać" — film fab. szwedz.




**6 студзеня, пятніца**

14.50 Для дзяцей. «Дударык». 17.20 Канцэрт па заяўках. 19.00 «Спадчына 1966-га». Выступленне каментатара па знешне-палітычных пытаннях. 19.30 «Дзвацаць гадзін.» Мастацкі фільм.

**7 студзеня, субота**

14.00 «Навагоднія святы». Перадача з Крамля. 19.30 «Прабачце, вас чакае смерць». Мастацкі фільм.

**8 студзеня, нядзеля**

11.25 Для дзяцей. «Дзяўчынка шукае бацьку». Мастацкі фільм. 12.50 Пошта віктарыны «Беларусь, рэспубліка мая!» (I тур). 13.40 «Подзвігі нашых землякоў». «Бяссмерце». 14.30 Усесаюзны фестываль самадзейнага мастацтва. 15.50 Тэатр тэлевізійнай навелы. Г. Уэлс «Чырвоны грыб». 16.30 «Святло і цені». Міжнародная праграма. 17.00 «Табага мяняе курс». Мастацкі фільм. 20.00 Нядзельная вясёлая праграма з Варшавы.

# Галіна Сланіцкая

(Працяг са стар. 1)

**ніякі рагочуць, а мне плакаць хочацца, бо сапраўды не ведала я нават аніводнай ноты. Дапамаглі мне сябры па класу. Я хутка папоўніла свае веды.**

Пасля чатырох год навукі ў сярэдняй музычнай школе Галіна Сланіцкая вучылася яшчэ 4 гады ў вышэйшай музычнай школе ў класе прафесар Марыі Гальфтэр. Разам на школьныя гады адышло ёй 20 год жыцця. Вось што каштуе слава.

**— Слава — гэта праца, а ў выпадку опернага спевака, яна асабліва цяжкая. Можа не паверыце, але я, пакуль падрыхтую нейкую новую ролю, худзею на 3—4 кілаграмы. Гэта толькі лёгкадумным гледачам здаецца, што мы нічога не робім, моў, выйдзе, паспявае крыху і ўсё!**

Шмат год працавала Галіна Сланіцкая салісткай Ансамбля песні і танца Войска Польскага. Потым падпісала кантракт з Варшаўскай операй. Дзе выступала за мяжой? Лягчэй сказаць дзе не выступала. Не выступала яшчэ ў ЗША, Японіі і Аўстраліі. Аж шэсць разоў прымала ўдзел у міжнародных спявачых конкурсах і заўсёды атрымоўвала ўзнагароды.

— Якія ролі Вы найбольш любіце?

**— Я люблю добрую музыку, і калі роля характарызуецца добрай музыкай, я яе выконваю з задавальненнем.**

— Ці часта наведваеце свае родныя старонкі?

**— У Гайнаўцы люблю адпачываць. Там да сёння жыве мая мама. Але на частыя паездкі — гэта аднак задалёка.**

— Якую тайну сваёй прафесіі захацелі б Вы пераказаць усім тым юнакам і дзяўчатам, якія мараць аб кар'еры опернага спевака?

**— Што гэта вельмі цяжкі і няпэўны кусок хлеба. Хай добра падумаюць, ці хопіць ім сіл і настойлівасці, ці іх талент вытрымае ўсе цяжкія выпрабаванні.**

— Шчыра дзякую за размову і прашу ад нашых землякоў разам з навагоднімі пажаданнямі прыняць скромны букет кветак.

**— Я таксама шчыра Вам дзякую і прашу перадаць чытачам «Нівы» сардэчныя прывітанні.**

Віктар Рудчык




**На здымку Галіна Сланіцкая ў сябе дома. Яна вельмі любіць слухаць музыку з грамафонных пласцінак. Бачым яе, як падбірае рэпертуар славутага опернага тэатра Ля Скаля.**

**Фота В. Рудчык**

## фальклор

## Грабіна

*Некалькі соцен метраў на ўсход ад вёскі Відава, на ўраджайнай зямлі растуць тоўстыя грабы і дубы, а між імі выкапаныя дзве сажалкі. Адна з іх вялікая, прадаўжастая, а другая круглая, абсаджаная ліпамі і пасярэдзіне яе ляжыць круглы, невялічкі востраў. Усё гэта абсаджана кругом густым бэзам. Яшчэ да I сусветнай вайны жыў тут пан Грабінскі і ад яго прозвішча гэтае месца людзі назвалі Грабінай. Уцякаючы перад фронтам пан Грабінскі на свой маёнтак кінуў праклядце, і ад таго часу ў Грабіне стала страшыць. Расказваюць старэйшыя людзі, што вечарам у Грабіне кругом круглай сажалкі ходзіць конская галава на курыных лапках, а на востраве пры залатой лямпе пані ў доўгім адзенні чытае кніжкі. Іншыя расказваюць, што бачылі над бэзам, то агонь з напісамі, то пана, які адпачываў у капелюшы, то яшчэ ўсялякія іншыя дзівы. Ці ўсё гэта сапраўды нехта бачыў? Не ведаю. Але чулі аб гэтым, чулі ўсе ў Відаве.*

*Міхась Давідзюк*
*Відава*

## НАЙБОЛЬШ ПАТРЭБНАЕ

Для супольнага карыстання ў вёсцы найбольш патрэбныя: крама, зялёная малака, святліца і дарогі. Жыхары Літвінавіч ужо даўно пабудавалі святліцу грамадскім чынам. Адрамантавалі і далей ладзяць дарогі. Вясною рашылі грамадскай працай пабудаваць вясковую краму і зялёную малака. Пастанавілі і прыступілі да працы. Зрабілі ўжо 500 пустакаў. Вясною пачнецца будова крамы і зялёні малака.

(мх)

**А. Баршчэўскі і В. Швед**

# Дружба і праца

**ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА**

**ВЕКАПОМНЫЯ ДНІ**

Заслонаў з Харошавым падышлі ўжо да хаты, дзе яны размяшчаліся, як парыў ветру данёс да іх гукі далёкай страляніны. Заслонаў насцеражыўся, усё прыслухоўваўся, у якім баку чуюцца стрэлы.

— Што б гэта магло значыць?

— Відаць, нехта напароўся на наш заслон, Канстанцін Сяргеевіч.

Страляніна тым часам сціхла. І толькі вецер, які ўсё мацнеў, набіраўся сілы. часам шалёна кідаўся на хаты, на абледзянелыя дрэвы. І тады шаматлівым шротам асыпаліся з дрэў ільдзінкі. Старыя ліпы, клёны цяжка парыпвалі, адчайна гнуліся маладыя бярозкі, нібы просячы паратунку ў зімы.

Некалькі коннікаў галопам праімчала ў той бок, адкуль нядаўна чуліся стрэлы. Да Заслонава, спяшаючыся, падышоў Дзетка.

— Немцы, таварыш камандзір брыгады!

— Многа? Дзе?

— Сотні дзве, з мінамётамі. Па дарозе з усходу.

— Што зроблена?

—Я загадаў нашаму заслону затрымаць іх.

— Правільна робіце, камандзір атрада!

— Але я хачу параіцца з вамі: да якога часу затрымліваць іх? Людзей у заслоне небагата. Частка людзей, праўда, невялікая, стаіць у засадзе на другой дарозе. Тут у вёсцы — лічаныя хлопцы з атрада, ёсць яшчэ трохі людзей з штаба брыгады.

— А мы з табой, Дзетка, не важкі хіба? — жартаўліва праказаў Заслонаў.

— Гэта вядома... — механічна адказаў Дзетка, які не зразумеў, відаць жарту.

— А мы надумалі тут з таварышамі неадкладна адправіць вас у лес, да атрадаў. Коні добрыя ёсць у запасе, санкі на падрэзах — віхрам даставім вас у бяспечнае месца...

Дзетка, захапіўшыся, гаварыў і не бачыў, як пастунова цямнеў твар Заслонава. І калі заўважыў — як апёкся, і змоўк.

Нешта хацеў сказаць камандзір брыгады страшнае, гнеўнае, але, перамогшы сябе, сказаў зусім ціха, спакойна:

— Ты што ж, і камандзірам брыгады наважыўся камандаваць?

— Ды што вы, што вы, таварыш камандзір! Я толькі клапачуся, каб вам нічога не пагражала...

— Адстаўце гэтыя клопаты... Слухаць маю каманду! Ты прасіў парады? Раю: затрымлівайце немцаў, пакуль можна. На ражон асабліва не лезьце: шкадуйце людзей, дарэмна не падстаўляйце іх пад агонь. Адным словам, дзейнічайце па-партызанску. Розум у вас ёсць, ён заўсёды вам падкажа.

— Ёсць дзейнічаць па-партызанску! Я загадаў, таварыш камандзір брыгады, пусціць спачатку ўгаворшчыкаў. Там больш за ўсё паліцаяў сёння, мову нашу разумеюць, сабачыя сыны... А не зразумеюць — загаворым інačай.

— Ладна, дзейнічай, Дзетка!

Той хуценька падаўся назад.

Злосць на Дзетку астыгла ўжо. Сапраўды, што ж благога ў тым, калі чалавек клапоціцца пра сваіх камандзіраў?

— Справіцца ён з задачай? — спытаўся ў Харошава.

— Справіцца, як заўсёды. Гарнізон ён сёння так пачысціў, што лепш не трэба.

Заслонаў і Харошаў адчынілі былі брамку, каб зайсці на двор свае хаты, як прыцiхшая страляніна ўзгарэлася раптам з новай сілай, прычым, як здавалася, было, у ход пайшлі кулямёты і мінамёты. Як высветлілася пасля, Дзетка, калі ўбачыў, што варожы атрад складаўся амаль што з адных паліцаяў, пусціў спачатку ўгаворшчыкаў. Былі ўжо ў яго практыцы такія выпадкі, калі паліцаі падаваліся назад без усякага бою пасля пары-другой трапных слоў добрага агітатара-прамоўцы.

Паліцаі залеглі ў баявых парадках па-абапал дарогі, не вытыркаліся дужа наперад і нічым не адзываліся. Відаць, слухалі. А прамова тая была вельмі кароткая: не лезце на смерць, а падавайцеся цэлыя і здаровыя назад, адкуль прыйшлі. Інакш абавязкова загінеце, загінеце нізавошта, праз адну хібу сваю дурасць.

«Угаворвалі» даволі спакойна, нават бобікамі не называлі, залішне не абражалі. Паліцаяў было многа, не варта было асабліва злаваць іх, патрэбна была і некаторая дыпламатыя. Спачатку ўсё ішло, здаецца, добра. Бачылі партызаны, што ў паліцаяў сапраўды выходзіць замінка, не вельмі яны кідаліся наперад. Ды відаць было, што часткова змяшанне ў паліцаяў гатова ўжо было перайсці ў нешта больш сур'ёзнае: адтуль чуліся гарачыя спрэчкі, чыясьці лаянка — лаяліся між сабой камандзіры. Хлопец, які «угаворваў», ужо смела быў высунуўся з-за камля прыдарожнай бярозы, за якой ён туліўся, праказаў яшчэ:

— Сапраўды, чаго мерзнеце ў полі, хлопцы, давайце каманду назад.

Магчыма, што і падаліся б паліцаі без бою назад, бо падавацца наперад, ды яшчэ перад самай ноччу, ды не ведаючы добра партызанскіх сіл, асаблівай ахвоты не мелі. Але здарыліся тут некаторыя непрадбачаныя падзеі. На дарозе, ззаду ў паліцаяў, заўважылі хлопцы яшчэ адзін атрад, які спешна набліжаўся. Па шынялях адразу прызналі эсэсаўцаў.

Хлопец, які ўгаворваў, яшчэ крыкнуў:

— Ну, чаго марудзіце? Глядзіце, паганяць вас зараз, як бараноў на зарэз. Назад, назад раім вам...

Крыкнуў і ўпаў, прарэзаны кароткай кулямётнай чаргою.

— Наперад, за мной, ура-а... — загадаў камандзір паліцаяў.

Ён ірвануўся наперад сам. Задняя ланцужкі пахіснуліся, некаторыя прыўзняліся, кінуліся наперад, але адразу плюхнуліся ў снег пад кулямётным агнём партызан. Пачаліся дробныя перабежкі паліцаяў. Эсэсаўцы памкнуліся былі імклівым захадам абысці партызан з левага фланга, але шквальным агнём былі прымушаны закапаца ў сумёты. З правага фланга заходзіць не адважыліся. Там уздоўж поля цягнуліся рэдкія і нізкія хвойнікі, эсэсаўцы баяліся натрапіць на нечаканую засаду. Але хутка за гэтымі хвойнікамі таксама ўшчалася страляніна. Там праходзіла другая дарога, па якой і рушыла невялічкая калона немцаў, трымаючыся кірунку на вёску, дзе быў Заслонаў. Калону гэтую затрымала засада, якая была выстаўлена яшчэ ноччу.

**(Заканчэнне за тыдзень)**

## Спатканні і эксперыменты 66



**Праца Юзэфа Кандэфера (Варшава) з II-га агульнапольскага белавежскага пленэра.**

**Фота А. Карпюк**

 

ЛЁСЫ АБСАЛЬВЕНТАЎ БЕЛ. ЛІЦЭЯ

# Адказ знаёмаму

Адзін з маіх знаёмых раіўся, куды паслаць вучыцца дачку, якая мела закончыць пачатковую школу. Зіна была вельмі пільнай і здольнай вучаніцай. Аднолькава любіла біялогію, хімію, як і беларускую мову. Настаўнікі раілі Раману паслаць дачку ў беларускі агульнаадукацыйны ліцэй. Але Раман хістаўся. Мне сказаў адкрыта: «Зіну хачу вучыць на інжынера, а там вучаць толькі па-польску. Гавораць, што беларуская мова перашкаджае ў паступленні на вузы». Ці так яно ёсць? Пачытайце.

У мінулым годзе ў Бельскім беларускім ліцэі матуру здалі 72 абітурыенты. Аж **58 абсальвентаў** ліцэя паступіла ў рознага тыпу вышэйшыя навучальныя ўстановы і школы. Неабходна дадаць, што абсальвенты ліцэя, якія не паступілі нідзе вучыцца, амаль усе працуюць у дзяржаўных установах. Ёсць лікі нават захапляючыя. **Спраўнасць** мінулагодніх **адзінаццатых класаў** белар. ліцэя ў Бельску выносіла аж **92%, калі сярэдняя ліцэяў у ваяводстве — 56,5%.** Непасрэдны ўплыў на вынікі навучання мела сістэматычнасць працы ліцэя. Адыйшлі тыя часы, калі ў ліцэі завешвалася навучанне якога-небудзь прадмета, таму што не было настаўніка. Наступіла не толькі стабілізацыя кадры ў ліцэі, але працуюць тут нават лепшыя метадысты ваяводства як: **Г. Анацік — фізік, М. Красоўскі — матэматык** і іншыя.

**НАПРАМКІ І КАР'ЕРЫ**

Шмат было выпускаў у Бельскім беларускім ліцэі. Ужо **568 абсальвентаў** (ад 1949 г.) маюць атэстаты сталасці гэтага ж ліцэя. Больш-менш каля **380 асоб у міжчасе закончыла вышэйшыя або няпоўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы.** Можна запісваць старонкі тымі, якія сталіся лекарамі, фармакалогамі, інжынерамі, ваеннымі, настаўнікамі. Многія атрымалі навуковыя ступені. Ёсць і такія, якія займаюць адказныя пасты ў краіне і па-за яе межамі.

Між школаю і некаторымі вышэйшымі ўстановамі ёсць традыцыйныя добрыя суадносіны. Дэканат Люблінскага ўніверсітэта вельмі ахвотна і кожны год прыймае выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя. Ахвотна прыймаюць выпускнікоў ліцэя на беларускую, рускую філалогію і фізіку ў Варшаўскім універсітэце. Амаль «калонія» выпускнікоў ёсць на юрыдычным факультэце Познанскага універсітэта. Кожны год па 2—3 асобы паступала на ВСР (Вышэйшая сельскагаспадарчая школа) у Ольштыне, і хаця ў апошнім часе туды «беларускія матурысты» не паступалі, у гэтым годзе плануецца аднавіць супрацоўніцтва. Трэба падкрэсліць, што каб ахвотна прыймалі выпускнікоў данай школы, на гэта **трэба заслужыць.** І сапраўды, абсальвентаў нашых ліцэяў любяць. Любяць за ўсё: за іх скромнасць, працавітасць і сістэматычнасць. Але каб яны такімі сталіся, хтосьці павінен быў пра гэта клапаціцца, навучыць...

Не думаю, што я напісаў аб усім. Падаў толькі некаторыя прыклады, якія пярэчаць Раманавай думцы.

Лёс моладзі, якая вучыцца беларускай мовы, абсалютна і нічым не горшы ад іншых. І, што не менш важнае, нашу моладзь любяць і дацэньваюць.

**Аляксей Карпюк**

# ТРЭБА ВУЧЫЦЦА

Даўно прыпаў нам гонар лічыцца краінай людзей, якія вучацца. Гэта вельмі прыемна, узнёсла. Цешымся новымі клубамі, школамі, марым аб усеагульнасць сярэдняй школы. І гэта ўсё вельмі добра.

Забываем часам аб адным. У Беластоцкім ваяводстве ў мінулым годзе каля **40 тысяч** людзей (у сіле ўзросту), якія не маюць закончанай пачатковай адукацыі. На гэты лік трэба глядзець сур'ёзна. Аналізуючы, трэба памятаць, што асветныя ўлады даўно вядуць рознага тыпу формы курсаў і кожны год выдаюць на т.зв. агульнаадукацыйных курсах шмат пасведчанняў заканчэння пачатковай школы. Так што гэты лік не з'яўляецца накапленнем некалькіх год. А ўсё ж 40 тысяч ёсць. Безумоўна, многа сярод іх людзей, якім цяжкія ўмовы, недастатковая апека з боку сям'і перашкодзілі яе закончыць. І не толькі тут важныя прычыны, колькі сам факт існавання такой колькасці людзей без пачатковай адукацыі.

Каб дабіцца магчыма найлепшых поспехаў у галіне ліквідавання гэтых 40 тысяч, куратарыум пастанавіў пашырыць гэтую дзялянку сваёй працы. Пашырана розныя формы аканчэння пачатковай школы. Асноўнай у далейшым асталася форма вячэрніх школ, а **для вёскі агульнаадукацыйныя курсы.** Гэта курсы для паасобных класаў з тым, што лік кандыдатаў на курс аднаго класа не можа быць меншым, чым 8, а для ПГР і лясной службы — 5 асоб. Фактычна сюды можа быць прыняты кандыдат на падставе пасведчання з апошняга класа. Напрыклад, калі хоча запісацца ў 6 клас, павінен даць пасведчанне з 5 класа і т.п. Але і тут ёсць пэўныя аблягчэнні, перад усім людзям старэйшым, пасля 25 год. Могуць яны быць прыняты на падставе экзаменаў без пасведчанняў.

Ініцыюююць курсы, якія рыхтуюць да т. зв. **экзаменаў спрошчаных.** Датычыць гэта перад усім жанчын і мужчын у старэйшым узросце.

Новай формай з'яўляюцца т. зв. **курсы выраўноўваючыя.** Тут можна папоўніць веды з ніжэйшых класаў. Такі курс канчаецца экзаменам, а яго ўдзельнікі атрымоўваюць пасведчанні, якія даюць права паступіць да наступнага класа.

Вельмі важнай але і вельмі занядбанай формай з'яўляюцца **пункты індывідуальнага чытання.** Аб што тут разыходзіцца? Той, хто хоча здаць экзамен, можа тут пазнаёміцца з праграмай, падручнікамі. Вельмі добра, калі настаўнік у «пункце» пастараецца пакіраваць самаадукацыяй зацікаўленага, задаць пытанні, указаць, на што звярнуць увагу. Не менш важнай будзе інфармацыя, дзе і як такія экзамены здаваць.

Адным словам, асветныя ўлады падрыхтавалі цэлы веер форм асветы дарослых, маючы на ўвазе, каб як найбольш з 40 тысяч магло атрымаць пачатковую адукацыю. Настаўнікі таксама робяць вельмі многа ў гэтым напрамку. Усё ж нам ўсім трэба памятаць, што гэта і нашая справа. Замала ўстановы і прадпрыемствы ў сябе арганізуюць такія формы працы. Амаль зусім гэтай справай не займаюцца розныя арганізацыі, якія існуюць на вёсцы. А пажаданыя вынікі могуць даць толькі супольныя намаганні.

**Кара**

# 25-годдзе ППР

(Працяг са стар. 2)

ўступленні сваіх членаў у рады ППР. Такім чынам сфармавалася партыя, якая павяла працоўныя масы Польшчы на зацятую барацьбу з нямецкім фашызмам, а потым з польскай рэакцыяй за перамогу грамадскай справядлівасці.

У час заснавання Польскай рабочай партыі вяліся зацятыя спрэчкі над яе праграмай, характарам і назвай. ППР прыняла названне партыі рабочай а не камуністычнай. Вынікала гэта з нявырашанай тады яшчэ справы развязання КПП, а таксама з таго, што заданнем яе было стварэнне шырокага народнага фронту да барацьбы з акупантам. ППР хаця заснавалася за згодай Камінтэрна, у супрацьлегласць іншым камуністычным партыям не была яго секцыяй, але партыяй самастойнай. На Беласточчыне ППР заснаўваецца пазней, бо аж у 1944 годзе. Да канца акупацыі дзейнічала на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства антыфашысцкая арганізацыя. У жніўні 1944 года ў Беластоку створана Арганізацыйнае бюро ППР, вакол якога пачалі згуртоўвацца адданыя камуністы, якія павялі працоўныя масы Беласточчыны да барацьбы за сацыялістычны лад. Першымі заснавальнікамі ППР у нашым ваяводстве былі: Эдуарда Арлоўская, Ежы Штахельскі, Аркадзь Лашэвіч, Уладзіслаў Несмялэк і іншыя.

**Ул. Паўлючук**

# Каляіны вясковага будаўніцтва

(Працяг са стар. 1)

ніку паўстае сітуацыя, якая накідае нашым гаспадарам розныя прымусовыя камбінацыі пры збудаванні сабе новага будынка, новай хаты. Будаваць з дрэва забаронена, а цэглы няма. Трэба дакупляць яе ўсялякімі аказіямі праз цэлыя гады — альбо тайком будаваць з дрэва. Павятовыя ўлады перастаюць чапляцца да такой будаўнічай патаемшчыны, бо разумеюць, што няма як пільнавацца забараняючых законаў.

Растуць драўляныя хаткі...

У банках прападаюць вялікія крэдыты на мураванае вясковае будаўніцтва. За тры кварталы гэтага года не выкарыстана 55 мільёнаў злотых гэтых крэдытаў. Недарэчнасць простая: пашто крэдыты, калі няма чаго купляць за іх. Хлеў можна пабудаваць і з пустакоў сваёй работы, бо цэменту хоць заваліся, а пяску ў пясчаных палетках яшчэ больш. А з чаго пабудаваць мураваную хату?

Грамадскія рады, павятовыя рады дамагаюцца будаўнічых матэрыялаў. Вынік іх дамаганняў такі, што цэменту і этэрніту атрымалі чуць не ўдвая больш, чым прасілі. А цэглы ў Дуброву прыслана ў тры разы менш, чым прасілі яе; у Саколку прыслана ў два разы менш; столькі сама атрымаў цэглы Беластоцкі павет, відаць, з той прычыны, што мае сваю цагельню ў Лясанцы; Бельск атрымаў у тры разы менш цэглы, чым патрэбна (у гэтым павеце будуецца каля паўтары тысячы новых будынкаў). Гэтаксама дасталася і іншым паветам, адным крыху больш, а іншым менш. У Бельску даведаўся я, што ў сувязі з недахопамі жалезабетонных бэлек дазваляецца гаспадарам ужываць драўляныя бэлькі. Апраўданне гэтага дазволу такое, што малая прадукцыя сталі патрэбнай для вырабу гэтых жалезабетонных бэлек. Так сказаць, перашкода незалежная ад нас. А як вытлумачыць недахоп цэглы, калі маем і гліну, і грошы на збудаванне цагельняў, і рукі да працы?

**Аляксандр Анташэвіч**

# ПРАЎДЗІВАЯ ЗЛАДЗЕЙСКАЯ ГІСТОРЫЯ Ў ТРОХ РАЗДЗЕЛАХ З ПРАЛ

**ПРАЛОГ**

Ехаў я ў Крынкі, каб чаго даведацца аб мясцовай зладзейскай шайцы. Але мой калега з рэдакцыі, які паходзіць з Крынак, сказаў:

— Кінь гэта, крынкаўчане нічога не скажуць...

Памыліўся калега, народ тут гаворыць усё, не пытаючы нават мяне, адкуль я: відаць, думаюць, што з міліцыі.

Бо міліцыі поўна тут.

**РУТКОЎСКІ НЕ ДАРАВАЎ**

Была ноч. Каля хаты млынара Руткоўскага ў Кузніцы прыпынілася легкавая машына з пагашаным святлом: дзве постаці чагосьці шапталіся, уваходзілі ў хату і выходзілі з яе. З другога канца вуліцы надышла баба. Таемныя людзі пагорбіліся, пастаўлялі каўняры. Бабу здзівіла гэта: яна ведала, што млынара няма ў хаце.

Назаўтра разыйшлася чутка, што млынара Руткоўскага абакралі да ніткі. Ён кіпеў: — Не дарую зладзюгам!

Данёс аб пакражы ў Сакольскую міліцыю. Мінуў тыдзень, другі, і Руткоўскі зразумеў, што з павятовымі Холмсамі не ўдасца яму датрымаць слова: па зладзеях след прастывае. Сам узяўся за следства і знайшоў сведку пакражы. Была гэта тая баба, якая запомніла нават нумар з боку машыны. Нарэшце штосьці ёсць: бакавыя нумары маюць толькі «таксі».

Тым часам выпала Руткоўскаму паехаць у Крынкі, дзе ён раней жыў. У марозны лістапад паявіўся ў адным папялінавым плашчы, падшытым ветрам, які застаўся яму. Адбывалася смутнае асенняе свята. На прыкасцельных могілках падышоў да яго Тадзік Шамрухевіч.

— Ну, як, пане Руткоўскі, жывеце? — загаварыў Тадзік.

— Добра, — адказаў Руткоўскі, здзіўлены тым, што Тадзік ніколі не гаварыў з ім. Тадзікавы свіныя вочкі як бы смяяліся, і Руткоўскі зазлаваў. Думаў: «Эх, як даў бы табе ў морду, гаўняк ты недавучаны!»

Праходзілі дні. Руткоўскі не паверыў Сакольскай міліцыі і выбраўся ў Беласток.

**— НА МІЛІЦЫЮ, ПАНЕ КАСПЭРЧЫК!**

Тайныя супрацоўнікі Беластоцкай крымінальнай службы мамантальна ўстанавілі, што машына з такім бакавым нумарам належыць таксісту Эдзіку Каспэрчыку, які зарабляе ў Саколцы, а жыве фактычна ў Крынках, дзе вядомы пад вулічным псеўданімам «Саган». На вакзале ў Саколцы рух, толькі што прыбыў беластоцкі поезд. Каспэрчык сядзіць у машыне і чакае пасажыраў, якім спешна ў цэнтр горада.

Падыйшло двух. Селі — адзін спераду, другі ззаду. Мелі якіясьці несамавіта пранікілвыя вочы, якіх Каспэрчык ніколі дагэтуль не бачыў.

Адзін з іх сказаў:

— На міліцыю, пане Каспэрчык! Толькі без глупстваў!! — прыгразіў, бліснуўшы пад носам легітымацыяй.

Каспэрчыку здалося, што ён валіцца ў пропасць без дна. Зашалелі вочы і знікла Саколка. Не меў сілы ўключыць стацыйкі: ключыкі выпадалі і выпадалі, усё роўна, як з не сваіх рук.

Была гэта астатняя язда Каспэрчыка.

**— РУХАЙ МОЗГАМ!**

Тадзік Шамрухевіч якраз выйшаў з хаты, калі ўбачыў, як уваходзіць на панадворак двух міліцыянераў. Тадзік ненавідзеў міліцыянераў, якія пару год таму назад выкрылі ў яго патайны выраб скураў на боты. Ён крычаў тады міліцыянерам: — Хай толькі ўлада зменіцца, усіх павырэзваю! Суд не пераняўся Тадзікавай смаркацкай палітыкай, засудзіў яго за нелегальны выраб скураў. Сядзеў.

І вось зноў ідуць міліцыянеры. Але Тадзік прыхаваў скуры загадзя, добра прыхаваў, так добра, што хваліўся перад другімі: — Рухай мозгам!

І шляпаўся па жывоціку. Ад тае хвальбы празвалі Тадзіка «Рухаймозг». Цяпер Тадзік адважна глядзіць на міліцыянераў, нават усміхаецца да іх, як злодзей, які пэўны, што яго не зловяць.

— Дзень добры, пане гаспадар, — сказаў першы міліцыянер і выцягнуў руку на прывітанне. Тадзік таксама. І ў гэты момант здарылася штосьці такое, ад чаго Тадзік анямеў і, відаць першы раз у жыцці не паверыў сваім вачам. Раззявіў тлустую ляпу: яго рукі раптам апынуліся ў кайданках. Блішчастых, нікеліраваных.

Тадзіка павязлі.

Следчы сказаў яму: — Маеце прывет ад Каспэрчыка.

Ад гэтых слоў Тадзік збялеў, моцна-моцна збялеў.

А ў Крынках выбухла сенсацыя: — «Рухаймозга» арыштавалі! Руткоўскага абакраў. З Каспэрчыкам ездзіў па вёсках. Краму абакралі, а прадаўшчыца невінавата сядзіць у турме...

**ЭПІЛОГ, НЕ АСТАТНІ.**

Ад пяці і больш год на Сакольшчыне адбываліся пакражы грошай, бялізны, каштоўнасцей, футраў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, машын са складаў



 

# ЛЕС, ЯК ЧАЛАВЕК

Ёсць пагаворка: лес, як чалавек, сто год расце. У гэтай пагаворцы шмат праўды. Пакуль з малюткага парастка вырасце стрункая паднебная сасна ці хвоя, трэба пачакаць сто год, а то і больш. Стары лес, бор векавы, гэта наша вялікае багацце, якое лёгка знішчыць, але цяжка дачакацца яго.

Часта гаворым, што замнога рубаем лесу. Але ў гэтай нашай гаворцы толькі палавіна праўды. Гэтая палавіна бярэцца ад таго, што мы памятаем шалёныя вырубкі лесу ў час войнаў. Акупанты палакоміліся на гэтае наша багацце. І засталося пасля іх спусташэнне немалое. Напрыклад, паўвеку назад рос дрымучы бор наўкола Крынак на Сакольшчыне. Ад таго бору і следу не засталося, пясчаныя пагоркі зараслі махаватаю травою. Цяпер садзіцца там малады лес і будзе бор за сто год, і паявяцца алені, і птушкі, і ўсялякая дзічына.

Неяк стала звычкаю думаць, што на Беласточчыне найбольш лясоў. Тым часам, гэта яўная няпраўда. Удвая больш лесу за нас мае Зялёнагурскае ваяводства, больш лесу маюць — Ольштынскае, Кракаўскае і іншыя ваяводствы. Нават Катавіцкае ваяводства не надта моцна адстае ад нашай, здавалася б, зялёнай Беласточчыны. Там кожны кавалачак зямлі стараюцца засадзіць лесам. І мы павінны рабіць гэтаксама, асабліва ў Гайнаўскім, Сакольскім і Бельскім паветах, дзе шмат пясчаных абшараў, сумнай спадчыны мінулых часоў. У сучасны момант існуюць магчымасці пасадкі лесу на 3—4 тысячах гектараў пустэчаў штогод.

Без лесу не можам жыць, лес патрэбен. Не буду ў гэтым месцы распісвацца аб тым, што змяншэнне лясоў пагаршае клімат — робяцца плыткімі рэкі, паміраюць ручаі, прападаюць падземныя воды і прасыхае зямля, родзячы сухавейныя вятры. Лес патрэбен, бо з дрэва выраблеецца папера на кніжкі, на газеты і часопісы і т.д. Не гаворачы ўжо аб тым, што дрэвам палім у печах. Падлічана, што на аднаго чалавека — дарослага ці малога — у Польшчы патрэбна каля паўфэстметра дрэва ў год. Вядома, разам з прыростам насельніцтва павялічваюцца патрэбы. Трэба рубаць больш дрэва, больш лесу.

Стараемся рубаць лесу як найменш. Уведзена ашчаднасці ў паперы, абмен падручнікамі паміж вучнямі старэйшых і малодшых класаў. Урэшце, забараняецца будаваць хаты з дрэва. Нягледзячы на ўсе гэтыя ашчаднасці, вырубкі лесу ўсё яшчэ крыху завялікія ў параўнанні да яго прыросту. Хочам вырубваць столькі, колькі прырастае. Хочам дасягнуць нармальнай сітуацыі ў гаспадаранні лесам, і мы ўжо блізкія таго. Калі ў гаспадарчым 1964/65 годзе вырубана на Беласточчыне адзін мільён трынаццаць тысяч фэстметраў лесу, то ў мінулым гаспадарчым годзе вырубана 965 тысяч фэстметраў — на сорак восем тысяч менш. За астатнія дзесяць год плошча лясоў павялічылася на звыш дваццаць тысяч гектараў, галоўным чынам, шляхам загаспадароўвання спрадвечных пустак.

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ёсць 387 тысяч гектараў дзяржаўных лясоў — гэта, перад усім, пушчы: Аўгустоўская, Супраская і Белавежская. Апрача таго, маем дзвесце тысяч гектараў прыватных лясоў, так званых, гаспадарскіх. Дзвесце тысяч, гэта вельмі многа. Аднак жа карысць ад іх вельмі малая. Занядбаныя гэта лясы, пераважна, нізкарослыя і пакірачаныя — больш прыдатныя на распалку, і на... гадоўлю зялёнак. Таму належная апека над гаспадарскімі лясамі можа даць у будучым значныя рэзервы добрага дрэва. Гаспадарскія лясы перадаюцца пад апеку леснікоў, што ў нічым не пазбаўляе ўласніцкіх правоў іх гаспадароў, якія, дарэчы аплачваюць леснікоў у выглядзе 25-злотавай даніны ў год ад гектара лесу. Плануецца, што надзор гаспадарскіх лясоў будзе весці 114 леснікоў. Гаворачы прымаўкаю, гэта скурка напэўна будзе вартай вырабу. Дачакаемся дзвесце тысяч гектараў добрага лесу.

Выкарыстаем пад пасадкі ўсе «эрзэтавыя» аблогі. Унукі нашы толькі будуць удзячны за такую нашу разважлівасць. Падзякуюць нам за стройны лес і ўспамянуць нас добрым словам.

**Кастусь Янкоўскі**






**АБ МОДЗЕ**

Ужо пачаўся перыяд карнавальных баляў і забаў. Што з'яўляецца найбольш модным у гэтым годзе?

Матэрыялы на вечаровыя сукенкі гэта: брокат, ляма, шыфон, гладкі шоўк, тафта, сацін, вэлюр, каронка і інш.

Якая павінна быць даўжыня сукенкі? У гэтым годзе модныя вечаровыя сукенкі ці спадніцы доўгія і кароткія. Кароткія дыктатары моды раяць толькі і выключна тым жанчынам, якія маюць прыгожыя ногі. Але, на жаль, большасць жанчын мае менш прыгожыя, або зусім брыдкія ногі. І таму мода ў гэтым годзе падумала і аб доўгіх сукенках. Пераважна складаюцца яны з дзвюх частак, або двух матэрыялаў адпаведна дабраных у колерах. Верх з іншага матэрыялу, а ніз — з іншага. Малыя дэкальтэ, а нават вельмі малыя. спераду ўсё пад шыю, больш адкрытыя плечы.

Адносна кароткіх сукенак. Даўжыня сукенкі павінна сягаць да паловы калена, не так як на штодзень — вышэй калена т.зв. «міні». Да таго абавязваюць прыгожыя доўгія-доўгія панчохі. Толькі дзе іх узяць?

Толькі аб вечаровых сукенках. А што насіць да працы? Усё: блузкі, спадніцы, сукенкі, касцюмы. Аднак найбольш моднымі з'яўляюцца сукенкі, світры, і сукенкі-касцюмы з аніляны і шэрсці. Усялякія колеры і ўзоры, робленыя на машыне ці на дротах, у палоскі, у косы. Фасоны простыя, сукенкі не адрэзваюцца ў таліі, ля шыі заканчваюцца просценька, або з варатнікам — стойкай, з доўгімі простымі рукавамі. Дапаўненнем да гэтага з'яўляюцца панчохі і шапкі, зробленыя з тых самых нітак, што і сукенка, ці світар.

Вельмі моднымі і, дадайма, вельмі практычнымі з'яўляюцца шапкі вось такія, як на здымку.

**Аксіння**




(Працяг са стар. 1)

Кожную нядзелю адбываюцца танцавальныя вечарыны. Бібліятэка аддзела налічвае 1500 экземпляраў беларускай мастацкай і навуковай літаратуры. Мае 130 чытачоў.

Аддзел плануе сарганізаваць драматычную і інструментальную групу. Прадбачваецца шэраг цікавых дакладаў прысвечаных беларускай праблематыцы, сустрэчы з членамі аб'яднання «Белавежа» і польскімі пісьменнікамі, у творчасці якіх выступае беларуская праблематыка.

Праўленне аддзела супрацоўнічае з братнімі таварыствамі. У апошні час найбольш цеснае супрацоўніцтва навязана з аддзелам Рускага культурнага таварыства. Гэта выяўляецца ў штомесячных культурных мерапрыемствах арганізаваных у зале ТППР, як, напр. апошняе «вечар польскай культуры» з багатай мастацкай часткай і асноўнае, стварэнне супольнага хора пад кіраўніцтвам Барыса Мулярчыка, які папулярызуе беларускія і рускія песні. За кароткі перыяд хор падрыхтаваў багатую і цікавую праграму, з якой выступіў на канферэнцыі БГКТ. Мастацкую частку ўзбагаціў рускі драмгурток пад кіраўніцтвам Марыі Цітковай. Пасля заканчэння канферэнцыі на сяброўскай сустрэчы праўленняў аддзелаў і харыстаў была абмеркавана справа павышэння мастацкага ўзроўню калектыву і яго далейшай працы. (м)

**РЭПЕРТУАРНЫЯ ПРАБЛЕМЫ**

16 снежня адбылося чарговае пасяджэнне камісіі культуры ГП. У ім узялі ўдзел дырыжоры хораў — Міхась Ануфрыеў з Беластока, Анджэй Пілярскі і кіраўнік дома культуры імя Кастуся Каліноўскага Мікола Матэйчык — абодва з Гарадка.

Дырыжоры харавых калектываў БГКТ расказалі аб цяжкасцях сваёй працы і аб цяжкасцях з беларускім песенным рэпертуарам.

Камісія культуры ГП пастанавіла:

1) што дырыжоры харавых калектываў БГКТ (пакуль што ёсць іх 4: у Беластоку, Бельску, Гарадку і Варшаве) будуць збірацца з прадстаўнікамі камісіі культуры для збору і выбару беларускіх песень. Першае такое рэпертуарнае пасяджэнне запланавана на 13.I.67 г.

2) За пасрэдніцтвам ГП звярнуцца з просьбаю ў Мінск да Р.Р. Шырмы і Г. І. Цітовіча і іншых асоб, каб яны дапамаглі для БГКТ пашырыць беларускі песенны рэпертуар для харавых калектываў.

3) што для харавых калектываў БГКТ рэпертуар будзе складацца не менш як з 50% беларускіх песень.

4) запрапанаваць для ГП арганізаваць штогод агляды харавых калектываў БГКТ,

5) наступнае пасяджэнне запланавана на 19.I.67. На ім будзе абмеркаваны і зацверджаны план працы камісіі культуры на 1967 год.

Удзельнікі пасяджэння выказалі думкі, што для БГКТ было б вельмі карысным арганізаваць спатканне прадстаўнікоў Прэзідыума ГП і яго камісіі культуры з прадстаўнікамі камісіі культуры ВРН, аддзела культуры ВРН, Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі і Ваяводскага камітэта ПАРП. На гэтым спатканні былі абмеркаваны некаторыя пытанні культурнай дзейнасці БГКТ, да якіх між іншым належаць праблемы беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

(мх)

**РАМЯСТВО**

Дбае дзяржава аб развіццё рамяства. Рамеснік зараз застрахаваны. Мае ён першынство ў набыванні патрэбнай яму сыравіны. Ды і падаткі яго не дабіваюць, як гэта было ў мінулым. Рамяство мае зялёнае святло для развіцця. Прыклад прыводзім з Бельскага павета. Там на падтрымку індывідуальнага рамяства ў 1965—1966 гадах было прызнана ўладамі 2.171 тысяч зл. На Бельшчыне цяпер існуе 467 рамесленых пунктаў, у якіх працуе 554 чалавек. А ў Сямяціцкім павеце налічваецца 692 рамесленыя пункты паслуг, у тым прыватных 550. Працуе там у рамястве 856 чалавек. (мх)

# Дзюдзісты

Усё больш папулярным становіцца ў нашай краіне гэты від спорту, які прывандраваў у Еўропу з далёкай Японіі. За апошнія гады вырас ён значна і на Беласточчыне, а нашыя дзюдзісты за кароткі час сталі вядомымі ў краіне. Вось двое з іх. **Уладзімір Амельянюк.** Нарадзіўся ў 1938 г. у Рыбалах, Бельскага павета. У Беластоку ад 1961 г. Працуе міліцыянерам. Спартыўную кар'еру пачынаў у лёгкай атлетыцы. Ад 1963 займаецца дзюда. Член спартыўнага клуба «Гвардыя». У 1965 г. Ул. Амельянюк стаў чэмпіёнам Польшчы МО па дзюда. У турніры прымала ўдзел каля 200 дзюдоўцаў. Фінальны паядынак Амельянюка быў найпрыгажэйшым. Некалькі тыдняў таму паўтарыў дасягненне і стаў чэмпіёнам МО на 1966 год. Выступае ў сярэдняй вагавай катэгорыі.

**Ніл Дуброўскі.** Нарадзіўся ў 1948 г. у Валілах, Беластоцкага павета. Там жыве дагэтуль. Пачынаў таксама ад лёгкаатлетыкі. Дзюда пачаў займацца ў 1964 г. У спартыўным клубе «Гвардыя». У лютым 1966 г. стаў чэмпіёнам беластоцкай акругі. У гэтым жа месяцы дабіўся яшчэ большага поспеху — заваяваў званне чэмпіёна Польшчы сярод юніёраў.

Пажадаем таленавітым спартсменам новых поспехаў і ў 1967 годзе.



На здымку Уладзімір Амельянюк (злева) і Ніл Дуброўскі на трэніроўцы.

Фота Ю. Леў.

# ОГАМ І ЭПІЛОГАМ, НЕ АСТАТНІМ

ГС-аў, крамаў, поштаў, нелегальна вырабленых скураў. Адны маўчалі і касіліся на суседзяў, другія ішлі ў міліцыю. Справы заставаліся няяснымі, а пакражаў прыбывала і прыбывала. Толькі цяпер прыпамінаюць, што перад кожнай пакражай паяўлялася ў аколіцы невядомая машына — толькі цяпер стала ўсё ясным!

Тадзік Шамрухевіч у Крынках хваліўся:

— Збудую сабе хату-цыцусь!

І, праўда, збудаваў.

— Куплю радыё, — хваліўся.

І, праўда, паявілася ў хаце радыё, элегантнае.

— Змеханізую швагра! — хваліўся.

І, праўда, швагер у хуткім часе меў усе сельскагаспадарчыя машыны.

Некаторыя хвалілі яго: — От, зарадны, гэты Тадзік. Маладзец!

І зайздросцілі.

Некаторыя ў Крынках лавілі Тадзіка на кражы. Нават публічна лаялі. Абнюхаў Тадзіка і Сяргей Яновіч, сам далёкі ад чысціні. Шантажаваў яго ў сваіх інтарэсах, і хто ведае, ці не дайшло б да «сполкі».

Тым часам сыплюцца рэвізіі. Міліцыянеры адвозяць цэлыя грузавыя машыны нарабаванага дабра, вартага сотні тысяч злотых. Але не ўсё знойдзена, абкрадзеным людзям трэба вярнуць, як не рэчы, то грошы. Пазаўчора адбылася ліцытацыя Каспэрчыкавай «таксі». Заўтра, мабыць, адбудзецца ліцытацыя Тадзікавай хаты-цыцусь.

Сусед шэпча да суседа: — Ведаеш ты, да твайго гумна Тадзік насіў такія рэчы, што аж страх...

Якія рэчы, так і пабаяўся сказаць.

У Тадзіка міліцыя знайшла мундзір афіцэра і зброю.

**ЗАКАНЧЭННЕ**

Тадзік хаваў нарабаванае ў чужых гумнах, аб чым нават і не падазравалі ўласнікі гэтых гумнаў.

Да Тадзікавай хаты прыбегла цёшча з лямантам:

— Ах, як гэта вы хадзілі да споведзі, бандыты вы!

— Пайшла вон, гарбулька! — пугнулі цёшчу з хаты, як цюцьку.

**Адоль Мусякевіч**

# КАЛЯДЫ Ў КАТЛАХ

Старая народная традыцыя пераказала нам між іншым святкаванне каляд. Каляды былі асноўнай урачыстасцю ў праграме зімовых святкаванняў.

Каляды былі вясёлым святам. Святкаванне іх выпадае ў час, калі канчаецца наступленне зімы і ночы, а неўзабаве пачне паболышвацца дзень, і ўсё абазначае, што прыйдзе час, калі ізноў пераможа сонца, радасць, святло і цяпло. Людзі цешыліся перамогай сонца над ноччу і падзею гэту вязалі з хрысціянскім вобразам нараджэння Бога-Хрыста. Людзі адзначалі гэтую падзею па-свойму, з уласцівай народнаму ўяўленню паэтычнасцю і майстэрствам.

Гавару «адзначалі», гавару «ўяўлялі», бо святкаванне каляд, так як і ўсе народныя абрады — справа перад усім мінулага. Як не хочаш, а сучаснасць прыносіць людзям іншыя радасці, іншыя роскашы і ўяўленні, і старыя народныя абрады і звычаі захоўваюцца толькі сілаю інерцыі, традыцыі, ды паступова занікаюць.

Як святкуе сучасная наша вёска каляды і наколькі захавала яна старую традыцыю?

Пытанне гэтае задаў я вучням пачатковай школы ў Катлах, Бельскага павета. Вучні напісалі апавяданні на тэму: «Святкаванне каляд у маёй хаце», — разам 17 апавяданняў.

**«Перад святам, — піша адзін з вучняў, — людзі маюць вельмі многа працы. На тыдзень перад калядамі колюць свінні. Гаспадыні робяць каўбасу і іншыя смачныя прысмакі. Робяць парадкі ў пакоях. Гаспадары купляюць і рэжуць цяляты».**

Такім чынам, як перад дзесяткамі гадоў, каляды з'яўляюцца перыядам генеральнага парадкавання, генеральнага мыцця, шматдзённага адпачынку, сытай ежы і моцнага піцця. Як перад дзесяткамі гадоў захаваліся ў Катлах, хаця ў крыху змененай форме, асноўныя абрады каляд. Традыцыя кажа, што напярэдадні каляд ніхто — старыя і дзеці — не павінен нічога есці да часу, калі на небе паявіцца першая зорка. Надавана гэтаму пэўны рэлігійны сэнс — есці лічылася грэхам, у сапраўднасці, аднак, разыходзілася пра тое, каб пры галодным жалудку больш адчуць роскаш каляднай яды, больш «наяўна» адчуць усю радасць каляднага свята. Зараз у Катлах толькі некаторыя сапраўды не ядуць да зоркі, іншыя пазбягаюць у гэты дзень скаромнай ежы, ад абраду звольненыя дзеці.



У Катлах Фота аўтара

**«Мама і тата, — піша вучаніца, — чакалі да зоркі. Я не чакала, бо хадзіла ў школу і захацелася мне есці».**

Вячэра адбываецца ўрачыста: у настроі сямейнага пагаднення і цішыні.

**«Зышлася, — піша вучань, — уся сям'я, бацька сказаў, каб усё было добра, каб не было аніякіх спрэчак, каб у здароўі і згодзе дачакаць наступных каляд».**

Стравы на калядным стале разнаабразныя, традыцыя кажа, каб было іх аж 12, рэдка, аднак, удаецца, нават на калядны стол, назбіраць такую колькасць страў. Усе жыхары Катлоў у хату прыносяць сена і т.зв. «госціка» — невялікую вязку збожжа. «Госціка» ставіцца ў куток, сена раскладаецца на крэслах і на стале, або толькі кідаецца пад стол. Часам на калядным стале паяўляецца бутэлька віна.

У многіх катлоўскіх хатах, хаця не ва ўсіх, ставіцца ёлку. Прыбіраюць ёлку напярэдадні каляд, пасля вячэры. Асноўным атракцыёнам першага дня свята з'яўляецца калядаванне. У Катлах калядуюць дзеці і ўся дарослая моладзь. Дзеці пачынаюць калядаванне перад абедам — недзе ў дзесяць гадзін раніцы. Дзяўчынкі ходзяць без звёздаў — хлопцы са звёздамі. Вечарам калядуе моладзь — з прыгожымі, вялікімі звёздамі.

На другі дзень свята пачынаюцца ўрачыстасці для моладзі, бадай што найважнейшыя: бурлівыя гульні густа «закрапліваныя» гарэлкай.

Каляды ў Катлах захавалі да нашых дзён многа са старой традыцыі. Зразумела, што і гэта традыцыя калісьці згіне, так як гіне яна ўжо ў прыгарадскіх вёсках або ў асадах. З этнаграфічнага боку найбольшай цэннасцю каляднага свята з'яўляюцца арыгінальныя, прыгожыя і цікавыя калядныя звёзды. Зараз ёсць яшчэ ў Катлах, як і ў іншых вёсках, мастакі, якія ўмеюць іх рабіць і людзі, якія ўмеюць імі захапляцца. На жаль, ніводнай з гэтых звёздаў не перахоўвае і не збіраецца перахоўваць ніводзін з нашых музеяў. Этнографы зацікаўляцца мабыць імі тады, калі трэба будзе многа сіл і намаганняў, каб знайсці недзе апошнюю знішчаную і разбітую калядную звязду.

Ул. Паўлючук

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЧЭХАСЛАВАКІІ

Названне краіны «Чэхаславакія» абазначае, што краіна гэтая складаецца з дзвюх нацый — чэхаў і славакаў. Паясненне гэтае кірую перад усім тым, хто выбіраецца на экскурсію ў славацкія раёны Чэхаславакіі. Жыхары Славакіі не могуць прабачыць турыстам, якім не хапае так элементарных ведаў аб іх краіне, каб адрозніць іх, славакаў, ад чэхаў. Сужыццё гэтых нацый абцяжана няслаўнай традыцыяй дыскрымінацыі славакаў, праз мацнейшую ад славацкай чэшскую буржуазію. Крыўды мінуўшчыны паступова выраўноўваюцца ў працэсе сацыялістычнага будаўніцтва пасляваеннай Чэхаславакіі. Адным з этапаў гэтага выраўноўвання крыўд была рэвізія датагачаснай ацэны славацкага нацыянальнага паўстання, якога 20-годдзе адзначалася ў 1964 годзе.

Апрача чэхаў і славакаў пражывае на тэрыторыі Чэхаславакіі некалькі нацыянальных меншасцей (палякі, мадзьяры, рускія, украінцы). Маюць яны сваіх прадстаўнікоў у мясцовых уладах, свае арганізацыі і культурна - асветныя цэнтры. У многіх мясцовасцях абавязваюць двухмоўныя надпісы на шыльдах і абвяшчэннях.

У сувязі са з'ездам партыі ў Астраве адбыўся нацыянальны семінар. Яго ўдзельнікі пастулявалі поўнае выкарыстанне існуючых магчымасцей далейшага развіцця нацыянальных меншасцей. На семінары гаварылася, што трэба імкнуцца да таго, каб двухмоўнасць не была чыстай фармальнасцю агранічанай да надпісаў і шыльдаў, каб, напрыклад, у школах з нацыянальна-меншаснай моваю навучання больш увагі прысвячалася культуры і гісторыі акрэсленай нацыі, яе жыццю і суседніх краін.

а-п

## На нашых экранах



Кадр з літоўскага фільма «Ніхто не хацеў паміраць».




Праз некалькі дзён у кабінеце шэфа аператыўнай групы вялася ажыўленая дыскусія.

— Не выклікае сумнення, — гаварыў падпалкоўнік Вольскі, — што вельмі рызыкоўная перакідка агента праз марскую граніцу была выклікана надзвычайнымі абставінамі. У адваротным выпадку замежная разведка выкарыстала б легальныя шляхі пераходу граніцы.

— А вывад? — пацікавіўся шэф.

— Шпіён прыбыў на ўзбярэжжа не для таго, каб арганізаваць новую агентуру, а, напэўна, для таго, каб актывізаваць ужо існуючую шпіёнскую сетку і выканаць канкрэтнае заданне. На жаль, мне да гэтага часу не ўдалося натрапіць на які б там ні было след.

— Спачатку мы прыйшлі да вываду, што агент, напэўна, пастараецца ўстанавіць радыус дзеяння выкарыстаных катэрам перашкод, — сказаў шэф.

Вольскі паківаў галавой.

— Ці ж у гэтым справа? На тэрыторыю радыёлакацыйных установак агент не пойдзе, распытваць салдат ён не стане. Апрача таго, катэр праз некаторы час павінен быў бы паўтарыць рэйс. Зусім відавочна, што пасля інцыдэнта пагранічнікі прымуць дадатковыя меры, што замежная разведка добра разумее.

Шэф нахмурыўся.

— У такім выпадку, — сказаў ён, — мы ведаем аб гэтай справе не больш, чым у папярэдні раз.

— Як бачым так, — згадзіўся Вольскі, — але застаўся яшчэ Панятоў. Гэта адзіная канкрэтная дэталь.

— Вось бачыце. У вас ёсць што-небудзь новае?

— Не, але мне здаецца, што там неабходна шукаць ключ да вырашэння гэтай загадкі. Існуе адно меркаванне, калі толькі Гардэн гаварыў праўду.

— Якое? — спытаў шэф.

— Думаю, што ў Панятове працуе другі агент, — нечакана заявіў Вольскі.

— У вайсковым падраздзяленні? — усклікнуў шэф. — Гэтага не можа быць! Там жа працуюць лепшыя афіцэры контрразведкі, яны, безумоўна, добра паінфармаваны. Ну, прабачце, на гэты раз вы перабольшылі.

Вольскі ўсміхнуўся.

— Наогул я не перабольшваю, — спакойна адказаў ён. — У мяне ёсць зусім рэальныя падставы для такога меркавання.

— Хацеў бы і я ведаць гэтыя падставы, — жыва адазваўся шэф.

— Гэта вельмі проста, — сказаў Вольскі. — Другі агент не з'яўляецца кадравым ваенным...

— Цывільны работнік?

— Не, — усміхнуўся Вольскі.

— Хто ж? — нецярпліва спытаў шэф.

Падпалкоўнік Вольскі мінуту памаўчаў:

— Думаю, што агентам, напэўна, з'яўляецца... — на гэтым месцы ён панізіў голас і пачаў гаварыць шэфу пра свае здагадкі. Паступова твар шэфа рабіўся змрочны.

— Усё гэта цудоўна, — сказаў ён пасля таго, як Вольскі закончыў, — але, на жаль, гэта гіпотэзы, не падмацаваныя ніякімі фактамі.

— Магчыма, — згадзіўся Вольскі. — Але ці азначае гэта, што мы павінны сядзець склаўшы рукі?

Усталявалася цішыня. Шэф над чымсьці задумаўся:

— Ну, добра! Ёсць у вас які-небудзь план? — праз некаторы час спытаў ён.

— Так, — Вольскі дастаў з партфеля дакумент. — Так я сабе ўяўляю ўсю аперацыю.

Шэф уважліва прачытаў праект аперацыі, узяў аўтаручку і, не раздумваючы, паставіў крыху ніжэй слова «зацвярджаю» свой подпіс.

— Скажу вам праўду, — вяртаючы Вольскаму план, сказаў шэф. — Я не магу яшчэ паверыць у рэзультатыўнасць такой аперацыі. Вельмі тут многа невядомых.

— Убачым, — адказаў Вольскі.

Працяг будзе

# ТРЫБУНА чытачоў

### ТРАДЫЦЫЯ КАЛЯД

Да каляд рыхтуюцца людзі ўжо заўчасу. На каляды, як правіла, павінна быць куця. А да куці патрэбна яшчэ дзевяць страў. Асноўныя з іх: грыбы і селядзец. Куцю перад вячэрай ставіцца за сталом на сена. Стол пасцілаецца сенам засцілаецца настольнікам. Вячэра пачынаецца з куці. Бярэцца яе па тры лыжкі. Лыжкі высока паднімаецца ўгору, для таго, каб высокі рос ячмень. Пасля па чарзе ядуцца ўсе стравы. Пасля вячэры выцягваецца сена. І якую саломінку выцягнеш, такі будзе расці на тваю долю лён.

На першы дзень каляд гаспадар дае збожжа курам у абручы, а гэта таму, каб куры не хадзілі нясціся ў чужыя гнёзды. Калі на першы дзень каляд перша ў хату ўвойдзе жанчына, значыць у гэтым годзе будуць добра радзіцца авечкі, а калі мужчына — бараны.

У час каляд многія старыя бабулі збіраюць попел (калядні) і ім пасля выкачваюць хваробы, пераважна вецер. Ужо многа з калядных звычаяў аджыло, і малодшае пакаленне аб іх нічога не ведае.

А. С.
Сакольшчына

### І ТУТ ЗАСВЕЦЯЦЬ ЛЯМПАЧКІ

У вёсках: Елёнка, Рудка і Тафілаўцы на Гайнаўшчыне праводзяць электрычнае святло — ініцыятыва Прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных. Многа работы выконваецца грамадска жыхарамі гэтых вёсак. Такія працы, як капанне ям на стаўбы, развозка іх па вызначанай лініі — жыхары абавязаліся самі выканаць. Да месяца лютага б.г. электрыфікацыя гэтых вёсак мае быць поўнасцю закончана.

**Мікалай Панфілюк**

### ЗАЛАТЫЯ РУКІ

У вёсцы Масева ёсць многа людзей, якія маюць, як кажуць, залатыя рукі. Ітак, напрыклад, Надзя Кіскайла, маладая дзяўчына, спецыялізуецца ў малярстве. У многіх жыхароў Масева і суседніх вёсак можна пабачыць прыгожыя партрэты і карціны намаляваныя Надзяю. Яна так прыгожа малюе, што цяжка паверыць, каб сямнаццацігадовая дзяўчына, якая скончыла толькі пачатковую школу, умела так маляваць. Калі ў Масеве ўбачыш нешта прыгожае і запытаеш, хто гэта маляваў, кожны адкажа, што гэта Надзя. Адным словам, Надзя мае залатыя рукі.

«Верас»
Масева

### САКІ І ІВАНКІ-РАГАЗЫ

Сакі і Іванкі — гэта дзве вёскі, якія ляжаць у паўночна-заходняй частцы Гайнаўскага павета. Дружныя сяляне невялікай вёскі Сакі прыступілі да грамадскага чыну, будуючы ў сваёй вёсцы брук на вуліцы. У вёсцы Сакі арганізатарамі грамадскіх чынаў з'яўляюцца: солтыс Ясь Паўлючук, Зыгмунт Карповіч і Аляксей Туроўскі. Жыхары вёскі Іванкі-Рагазы таксама зрабілі брукаваную маставую на сваёй вуліцы. Тут таксама заслугоўвае на пахвалу солтыс вёскі грамадзянін Пашкевіч. У палавіне снежня мінулага года ў вёсках Сакі і Іванкі-Рагазы адбылося яшчэ адно вялікае выдарэнне. У хатах усіх жыхароў упершыню засвяціліся электрычныя лямпачкі. ГРН у Трасцянцы можа пахваліцца, што ўжо ўсе яе вёскі маюць электрычнае святло.

Ярош
Гайнаўскі павет

### ЯШЧЭ АДНА КЛУБА-КАВЯРНЯ

Нядаўна ў Луцэ на Гайнаўшчыне аддана ў карыстанне клуба-кавярня. У клубе штодзень вечарамі заўсёды многа бывае жыхароў вёскі, а таксама моладзі. Тут існуе два гурткі: БГКТ і ЗМВ, якія супольна арганізуюць вечарынкі, а таксама вывучаюць п'есы. Увайшоўшы ў клуб, кідаецца кожнаму ў вочы фотагазетка «З жыцця БССР» і сценгазетка «Z kraju i ze świata».

Толькі адна бяда, што ў клубе няма ні тэлевізара, ні радыё, а толькі адзін і той прыпсуты адаптар.

Віктар Бура
Гайнаўка

### ПАДЗЯКА

**Усім тым асобам і ўстановам, якія прыслалі навагоднія і святочныя пажаданні, складаем шчырую падзяку**

**Рэдакцыйны калектыў «Нівы»**




Дарагое Сэрцайка!

Маня з Валодзем пазнаёмілася два гады таму. Пісалі лісты, сустракаліся. Калі Маня прыехала ў нашу вёску да сваякоў, адразу мне спадабалася. Гэтага я не выяўляў, бо Валодзя — гэта мой сябар і я не хацеў лезці ім у дарогу. Аднак адным вечарам удалося мне правесці Маню дамоў. Калі мы пазнаёміліся бліжэй, я прызнаўся, што пакахаў Маню. А яна таксама гаварыла, што мяне кахае і што Валодзя ёй не падабаецца (адкуль пазнала мяне), і што не будзе ўжо з ім сустракацца. Я сказаў Мані, каб выбрала з нас таго, хто лепш падабаецца. Ну і першынство прыпала мне. Аднойчы Валодзя хацеў правесці Маню дамоў, аднак яна не згадзілася і пайшла сама, бо мяне тады не было. Аднойчы Валодзя паказваў мне лісты Мані, і паводле гэтага я перастаў верыць, што Маня мяне кахае. Прасіла ад'язджаючы дамоў, каб я падарыў ёй сваю фатаграфію. Але я не згадзіўся на гэта, бо ведаю, што яна мае фатаграфію Валодзі. Парай Сэрцайка, як пераканацца, ці кахае мяне Маня ці Валодзю?

Міша з вёскі Р.

Дарагі Міша!

Шкада, што ты мне не напісаў, па колькі вы маеце год. Бо тады і мне было б лягчэй параіць, а што найважнейшае, трапней параіць. Бо слова каханне — у кожным узросце — і н а к ш вымаўляецца. З лісту выглядае, што вы яшчэ вельмі маладыя, і таму, хоць вам здаецца гэта ўсё каханнем, усё ж такі гэта не сапраўднае каханне. Проста Маня падабаецца табе і Валодзю. Мані падабаўся Валодзя, пакуль не ўбачыла цябе. Тое, што пішаш, сведчыць аб тым, што Маня цяпер зацікаўлена толькі табою. І гэта павінна цябе супакоіць. Ты астаўся пераможцам. А ці сапраўды Маня цябе кахае, пакажа будучыня. (Скажы Валодзю, што вельмі брыдка даваць чытаць лісты ад дзяўчат).

### ВАЛЯНСКІЯ НАСТАЎНІЦЫ

Ёсць іх чатыры. Працуюць настаўніцамі ў Вольцы Выганоўскай (Бельскі павет). Першаю пачала працаваць у валянскай школе Марыся Хрэн. Яна ўсім вядомая ў аколіцы. Прыгожа іграе на акардэоне, прыгожа спявае. Часта можна пачуць яе на танцавальных вечарынах, арганізаваных праз валянскую моладзь.

У 1964 годзе пачала працаваць настаўніцай у Вольцы Ніна Васілеўская, а ў мінулым годзе — Надзя Шатыловіч і Валя Жменька. Дзяўчаты паходзяць з розных старон Беласточчыны. Хутка аднак зжыліся з сабою.

У вольныя ад заняткаў хвіліны часта ў школе можна пачуць песню. Спяваюць настаўніцы. Прыгожа спяваюць. Хацелася б слухаць і слухаць песень у іх выкананні. Гармонік Марысі таксама робіць сваё. Кранае за сэрцы ўсіх: і старых, і моладзь. Настаўніцы пасябравалі з моладдзю Волькі і Маскаўцоў. Часта дзяўчаты і хлопцы запрашаюць сваіх настаўніц на супольныя вечарыны.

М. С.
Волька

### ДЗЯЎЧАТЫ Ў СВМ

Год таму назад пра нашых дзяўчат не ведала ў павеце ніводная арганізацыя. Ніхто нават і не думаў, што ў раскінутай вёсцы Тарнопаль можна будзе сабраць усю моладзь у адну супольную групу. Аб гэтых справах падумаў і вырашыў гурток Саюза вясковай моладзі (ЗМВ), у якім былі амаль усе самыя хлопцы. Дзяўчаты жылі тут, як кажуць, жыццём спакойным. Іх ніхто і ніштo не абыходзіла. І толькі ў летнія вечары можна было пачуць, як гэтыя дзяўчаты спявалі вясёлыя песні. Гэтыя спевы чулі члены ЗМВ і часта думалі, як добра было б мець у сваім гуртку такіх дзяўчат. Аднойчы старшыня гуртка Янэк Бура вырашыў абавязкова пагутарыць з гэтымі дзяўчатамі. Пры найбліжэйшай сустрэчы з сяброўкамі ён запрапанаваў стварыць у сваёй вёсцы эстраду. І ад гэтага пачалося. Сяброўкі часцей пачалі наведваць сходы СВМ. Аднойчы нават самі запыталіся ў старшыні Янкі, «ці цяпер яшчэ можна ўступіць у члены ЗМВ». Янэк разам з іншымі членамі ахвотна прыняў сяброўак у лік членаў Саюза вясковай моладзі. І цяпер усе дзяўчаты разам са сваімі сябрамі рыхтуюць выступленне на сцэне ў сваёй вёсцы. А як добра пойдзе, тады напэўна будуць выступаць і ў суседніх вёсках.

Чытач з Тарнопаля
Гайнаўскі павет

### ПРЫЕМНАЯ ВЕСТКА

У раёне Рыгораўскай пошты найбольш чытаюць «Ніву». Як паведаміў кіраўнік пошты Міхась Грыгарук, у чацвёртым квартале 1966 года падпіску на «Ніву» зрабіла 156 чалавек. Найбольш падпісчыкаў мае пісьманосец Янка Таранта (75 экз.). У яго пераважна сталыя падпісчыкі. Падпіску робяць квартальна. Найбольш чытаюць «Ніву» ў Пашкоўшчыне і Тапчыкалах. Прыемная гэта вестка. Каб такіх вёсак было ў нас больш. І больш такіх пісьманосцаў, як Янка Таранта. У канцы хачу падкрэсліць, што ў распаўсюджванні роднага часопіса многа дапамаглі настаўнікі са школы ў Пашкоўшчыне.

У. С.
Пашкоўшчына

### З КУРАШАВА Ў ЧЭХАСЛАВАКІЮ

У Курашаве (Гайнаўскі павет) вырошчваюць многа агуркоў і памідораў. Прадаюць іх каапературу «Вітаміна», які ёсць у вёсцы. Вядзе яго Васіль Матвеюк. У 1965 годзе курашаўскія агуркі павандравалі ў Германскую Федэратыўную Рэспубліку. У 1966 годзе — у Чэхаславакію. Найбольш агуркоў у гэтым годзе прадаў Язэп Паўлючук.

С. У.
Бельскі павет

### САМАДЗЕЙНІКІ З МАСКАЎЦОЎ

Маскаўцы — гэта невялічкая вёсачка ў Бельскім павеце. Яна амаль злучылася з Волькаю Выганоўскай. Няма тут школы, ні святліцы. Адзінай разрыўкай у Маскаўцах можа быць кніжка. Ёсць грамадская бібліятэка. Працуе ў ёй Лідзія Піцэлюк.

У Маскаўцах ёсць шмат моладзі. Таленавітай моладзі. Неаднойчы ўжо маскаўскія дзяўчаты і хлопцы арганізавалі канцэрты мастацкай самадзейнасці. Апошнім часам рыхтуюць беларускую вадэвіль-камедыю Янкі Купалы «Прымакі». У праграме знайшліся польскія і рускія песні, гумар. Два разы ў тыдзень адбываюцца рэпетыцыі. Моладзі цяжка працаваць. Няма святліцы. Трэба цясніцца ў маленькім пакойчыку бібліятэкі. Гэта ўсіх хвалюе ў Маскаўцах, і моладзь, і старэйшых жыхароў. Праграма рыхтуецца на 8 студзеня 1967 года.

Галоўнай асобай калектыву з'яўляецца музыкант. Ім з'яўляецца Яўгень Хмур. Ён акампаніруе да песень, іграе на танцавальных вечарынах. Сваёй ігрой заваяваў славу і папулярнасць сабе далёка за граніцамі сваёй вёскі. Ведаюць яго не толькі на Бельшчыне. Вядомы і ў суседнім, Гайнаўскім павеце. Маскаўскі калектыў пасля выступлення ў сваёй вёсцы, наведвае аколіцу. Грошы сабраныя з канцэртаў прызначаны будуць на будову святліцы. Карысная гэта справа не толькі для моладзі, але і для ўсяе вёскі. Варта пахваліць маскаўскіх самадзейнікаў і пажадаць ім самых лепшых поспехаў у працы.

**Мацейка**

# КІНО

**на 10—15.I.1967 г.**

#### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Odraza" (węgierski), 10—11. „Między linami ringu" (USA), 12—13. „Ubranie prawie nowe" (polski), 14—15.

**Кляшчэлі**
„Złodziej brzoskwiń" (bułg.), 10—11. „Uwaga! Czarny kot" (radz.), 12—13. „Ucieczka z Paryża" (franc.), 14—15.

**Дубіны**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), „Pożegnanie" (polski), 14—15.

**Нарва**
„Karambol" (węgierski), „Romans z nieznajomym" (USA), 11—15.

**Нараўка**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 11—15.

**Чыжы**
„Dom z facjatą" (radziecki), „Grzeszny anioł" (radz.), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**
„Niedziela sprawiedliwości" (polski), „Yanco" (meksyk.), 11—15.

#### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Samotna" (węgierski), „Potem nastąpi cisza" (polski), 11—15.

**Міхалова**
„Skrytobójcy" (NRD), 10—11. „Mój stary" (polski), 12—13. „Trema" (USA), 14—15.

#### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Hasło bez odzewu" (bułg.), 10—11. „Ubranie prawie nowe" (polski), 12—13. „Nieznany" (polski), 14—15.

**Мілейчыцы**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), 10—11. „Ostatni świadek" (NRF), 12—13. „Strzelby Apaczów" (USA), 14—15.

#### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Bambi" (USA), 10—11. „Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), 12—13. „Kochankowie z Marony" (polski), 14—15.

**Шудзялава**
„Cisza! Na sali operacja" (radziecki), „Ranny w lesie" (polski), 11—15.

**Сідра**
„Wehikuł czasu" (USA), 10—11. „Hamida" (NRD), 12—13. „Koniec wojny" (polski), 14—15.

**Сухаволя**
„Czarny monokl" (polski), „Czternaście dni" (jugosł.), 11—15.

#### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Olbrzym" (USA), „Fatalny list" (ang.), 14—15.

**Ліпск**
„Dwadzieścia godzin" (węgierski), „Spacer po linie" (angl.), 14—15.

#### ТЭАТР ІМЯ ВЯНГЕРКІ (выязная група)

**Гайнаўка**
„Mój biedny Morik" — 10.I.

„Mój biedny Morik" — 11.I.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-31-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma, Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.567 Błtk. D-2

